# СВАБОДНАЕ СЛОВА

ВЕРАСЕНЬ № 99 2000

У нумары выкарыстаны перадрукоўкі з рэспубліканскіх і масавых зарэгістраваных газэтаў

Матэрыялы друкуюцца ў скарачэньні


## «ОБЛОЖИЛИ МЕНЯ, ОБЛОЖИЛИ...»

*Народная Воля*

19 сентября председатель Объединенной гражданской партии Анатолий Лебедько не смог утром выйти из дома. Какие-то люди в штатском дежурили внутри и вокруг дома на улице Леси Украинки, в котором проживает опальный политик. Две машины с людьми в штатском стояли возле подъезда. Двое молодых людей — у входа в подъезд, двое — на лестничной клетке.

На протяжении нескольких часов двое или трое молодых людей продолжали дежурить на лестничной клетке возле квартиры Анатолия. Причем, как сообщила супруга Анатолия Светлана, которая периодически выходит «подышать свежим воздухом», «пост» все время меняется — новые «охранники» Лебедько сменяют старых. Охота на Анатолия Лебедько началась после того, как он поучаствовал в пикете, посвященном годовщине исчезновения Виктора Гончара и Анатолия Красовского.

По словам самого объекта облавы Анатолия Лебедько, «власть наглядно демонстрирует, на что тратятся деньги налогоплательщиков: целый день на мою скромную персону милиция бросила не меньше целого отделения. Если, конечно, это милиция: никаких опознавательных знаков, в том числе милицейской формы, на этих «наблюдателях» нет».

Свою очередную статью «Вопросник для Лукашенко» Анатолий Лебедько передал корреспонденту «Народной воли» следующим образом: завернул информационную дискету со статьей в целлофановый пакет и сбросил ее вниз. Благо, живет Анатолий Лебедько невысоко. Вот такие наши реалии.

*Александр СИЛИЧ*

## ЗДАРЫЎСЯ ЦУД

*Народная Воля*

Генеральны дырэктар друкарні «Мэджык» Юрый Будзько апраўданы судом Першамайскага раена беларускай сталіцы.

Дырэктар друкарні абвінавачваўся ў тым, што на яго паліграфічным прадпрыемстве надрукаваны на мінулым тыдні спецыяльны выпуск газеты «Рабочий», які ўтрымлівае заклікі да байкоту восеньскіх 2000 года выбараў у Палату прадстаўнікоў. Міліцыя тады арыштавала больш за 100 тысяч асобнікаў гэтага выдання. Абвінавачанні былі зняты са сп. Будзько пасля таго, як ён заявіў суду, што ў Беларусі папярэдняя цэнзура ў газетах забаронена Канстытуцыяй. Ён ні як грамадзянін, ні як дырэктар друкарні не мог адмовіць рэдакцыі ў друкаванні спецвыпуску.

Суд над галоўным рэдактарам газеты Віктарам Івашкевічам, якога таксама абвінавачваюць у закліках да байкоту выбараў, адбыўся 19 верасня. Байкот выбараў па Выбарчым кодэксе дазволены, але па Кодэксе Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях заклікі да байкоту выбараў караюцца невялікім грашовым штрафам.

*Юрый АЛЯКСЕЕЎ*




## МАЛАДЫЯ сацыял-дэмакраты СУПРАЦЬ

*Народная Воля*

Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне «Маладая Грамада» асуджае «дзеянні тых асоб і арганізацый, якія на словах дэкларуюць сваю прыхільнасць дэмакратычным каштоўнасцям, а на справе паступаюцца імі, прымаючы ўдзел у фарсе, арганізаваным афіцыйнымі ўладамі». Пра гэта гаворыцца ў заяве маладых сацыял-дэмакратаў.

Паколькі многія з членаў «Маладой Грамады» з'яўляюцца адначасова і членамі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада), гэтую заяву можна разглядаць як выпад у адрас шэрагу сваіх старэйшых таварышаў, якія бяруць удзел у выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў. У іх ліку і лідэр БСДП (НГ) Мікалай Статкевіч.

«Толькі салідарнасць усіх прадстаўнікоў дэмакратычнай апазіцыі і цывілізаванай часткі беларускага народа можа вывесці нашу краіну з тупіка, у якім яна апынулася па віне непрафесійнай і авантурнай палітыкі афіцыйных улад», — гаворыцца ў заяве маладых сацыял-дэмакратаў.

*Юрый ПАЦЁМКІН*

## РАЗРАБАВАНЫ ОФІС САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТАЎ

паводле матэрыялаў РАДЫЁ СВАБОДА

Гэтым чацьверам позна ўвечары на штаб-кватэру БСДП НГ адбыўся ўзброены напад невядомых бандытаў. Разрабаваныя партыйныя архівы, кампутары, скрадзеныя грошы — больш за 6 тысячаў даляраў. Лідэр партыі Мікола Статкевіч лічыць, што гэта факт палітычнага тэрору, што гэтая акцыя плянавалася загадзя, і падазрае, што дзейнічала адна зь беларускіх спэцслужбаў.

Учора ўвечары, а 22:30, пад выглядам сяброў «Народнае Грамады» з Гомля двое невядомых папрасіліся ў штаб-кватэру БСДП перанначаваць. Як толькі іх упусьцілі, рабаўнікі дасталі пісталет, апранулі маскі й пальчаткі ды прымусілі ўсіх прысутных легчы на падлогу. На той момант у штаб-кватэры знаходзіліся чатыры маладыя актывісты — яны працавалі на кампутарах у начную зьмену.

Адзін з пацярпелых Мікола Худніцкі сьцьвярджае, што «у аднаго ў руках

заканчэньне на стар. 3

# НЯМА ВЫБАРУ, АПРОЧ БАЙКОТУ

БАЙКОТ 2000

НАША НІВА

**Выбарчыя камісіі адсеялі амаль усіх незалежніцкіх кандыдатаў**

Стратэгія байкоту выбараў аказалася слушная. Улады не зьбіраюцца нават рабіць выгляд, што выбары роўныя і справядлівыя. З прыкладна 60 кандыдатаў, якія стаялі на пляцформе незалежнасьці і дэмакратыі, выбарчыя камісіі зарэгістравалі меней за 10. Прычым сярод гэтых 10 «правераных байцоў» — толькі двое: М.Статкевіч і М.Чыгір. Але цяпер і тыя ўжо не выключаюць свайго выхаду зь бессэнсоўнай гонкі. Улады старанна адсейвалі ўсіх тых, хто мог бы ў будучым парлямэнце выступіць у абарону незалежнасьці: «зарэзалі» Г.Грушавога, Ю.Чыгір, Г.Паганяйлу, Н.Стужынскую, Ю.Зуева, У.Ляўковіча, М.Злотнікава, Т.Ваніну. «Не прапусьцілі» прафлідэраў Ганчарыка і Бухвостава. Загарадзілі дарогу і памяркоўным экс-сябрам лукашэнкаўскай каманды, што сышлі ў адстаўку.

Цікава, што «не прапусьцілі» ніводнага з тых дзеячаў, хто калікольвек уваходзіў у БНФ. У той жа час лібэрал-дэмакраты й камуністы, хоць яны й ня менш голасна дэклярююць свае прэтэнзіі на ўладу, амаль бяз стратаў прайшлі гэты этап выбарчай гонкі. Як і «яблычнікі» Абрамава й Фядута. Адсявалі не «апазыцыянэраў», адсявалі «незалежнікаў». Гэта пра многае сьведчыць. В.Шлындзікаў, адзін зь лідэраў АГП, які меў негалосна каардынаваць выбарчую кампанію дэмакратычных кандыдатаў, ня мог не прызнаць: «Не застаецца іншага выбару, як далучыцца да байкоту». Пад ягонымі словамі цяпер можам падпісацца мы ўсе. Тыя, каму дарагая незалежнасьць.

На пачатку тыдня ўлады арыштавалі тыраж газэты «Рабочы» з заклікам да байкоту выбараў. Канец тыдня адзначыўся таксама шматлікімі затрыманьнямі актывістаў апазыцыі, што распачалі кампанію актыўнага байкоту ў Менску.

Трэба думаць, выбарчая цяганіна на гэтым ня скончыцца. Сямутаму хочацца прымусіць апазыцыянэраў, прычараваных відзежай улады, паўзці да ≠е на каленях. Таму Цэнтравыбаркам урэшце зарэгіструе, скажам, 9 сацыял-дэмакратаў з 16... Гуляцца з мышкай будуць доўга.




БАЙ·КОТ

Ува ўсёй краіне тымчасам паадкрывалі рахункі для збору дапамогі сем'ям маракоў расейскага падводнага чаўна «Курск». Які цынізм! На «Курску» выпрабоўвалі новую сьмертаносную зброю. Экіпаж субмарыны, прынамсі камандзіры і прадстаўнікі ваенных заводаў, што прысутнічалі на пусках тарпедаў, ведалі, на што ідуць. Зброя аказалася няякасная, і падлодку разарвала. Новае пакаленьне расейскай зброі мае быць скіравана супраць іншых краінаў, асобныя яе віды — і супраць Беларусі таксама. І беларусаў жа агітуюць плаціць за выпрабаваньні ўласнае сьмерці. «Ты крыкнуць ня можаш «Ратуйце»... Карэспандэнты «НН» перадаюць з Полацку й Астраўца, што грошай на тамтэйшыя рахункі яшчэ не паступала.

*Б.Т.*

# ВОСЕНЬСКІЯ ГРАФІЦІ

НАША НІВА

***Натальля Бабіна***

Восенькія надпісы на платах зьяўляюцца ноччу. І калі першыя ранішнія машыны, узьнікаючы з пэрспэктывы вуліц, узьнімаюць смугу з асфальту і сонца з-за далягляду, то ранішнія шафёры першымі бачаць мэтровыя ў вышыню чырвоныя словы «БАЙКОТ 2000», якіх яшчэ ўчора не было на масіўных бэтонных плітах.

Ранішнія шафёры, напаіўшы машыны бэнзынам, зьнікаюць, з-за рагоў выплываюць тралейбусы. Яны адвязуць пралетараў на Трактарны, а на зваротным шляху падхопяць чыноўнікаў рознага рангу, якім трэба выходзіць на плошчы Мясьнікова... Раніца ўвойдзе ў дзелавы раж і сканае аб адзінаццатай, калі са школаў пацягнуцца дахаты першыя зь першаклясьнікаў.

У якой школе, у якой клясе сядзяць тыя, хто ня спаў гэтую, на 12 верасьня, ноч? Мэтровыя надпісы зьзяюць так, што іх нельга не заўважыць.

Восеньскія графіці вырастаюць зь летніх. Летнія графіці бачаць гараджане, якія не паехалі на мора, а засталіся ў горадзе.




Адзін зь летніх дзён засьпявае мяне ў Менску ля бібліятэкі імя Пушкіна па вуліцы Гікалы, дзе я праходжу і назіраю такую карціну.

На сьценах бібліятэкі шмат дзе напісана: «БЕЛАРУСЬ - ГЭТА СЬВЯТОЕ» і «СВАБОДА або СЬМЕРЦЬ».

Дама адміністрацыйнага выгляду ў прычоссы (мо дырэктарка бібліятэкі?) кляне пісараў словамі «Ну, сколько можно писать! Идиоты какие-то! Скоты». Яна стаіць за сьпінай (кантралюе) мужыка ў марынарачцы, які спрытна водзіць пэндзлем па літарах (замалёўвае іх, але так, каб фарбы разыходзілася мінімум, з-за чаго літары павялічваюцца ў памерах, але, у прынцыпе, не прападаюць) і дае свой камэнтар пасьля кожнай рэплікі начальніцы. Выглядае прыкладна так:

***Начальніца:*** Сколько можно писать!

# ПІКЕТЫ СУПРАЦЬ

Свабода

## недэмакратычных выбараў узмацняюцца

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ
Алесь ПАЎЛОВІЧ

**Звычайнай справай стала адкладванне разгляду справаў пікетоўшчыкаў за байкот, затрыманых мінулым тыднем. З усіх прызначаных судоў намінальна адбыліся толькі два — над дэпутатам Вярхоўнага Савета 13-га склікання Паўлам Знаўцом і над галоўным рэдактарам газеты «Рабочы» Віктарам Івашкевічам ды дырэктарам друкарні «Мэджык» Юрыем Будзько.**

Паўла Знаўца, які знаходзіўся побач з пікетам на вуліцы Фабрычнай, апраўдалі за адсутнасцю складу злачынства. А з Віктара Івашкевіча суд вырашыў спагнаць штраф у памеры пяці мінімальных заробкаў – 13.000 рублёў.

Увесь наклад спецвыпуску газеты «Рабочы» з заклікам да байкоту выбараў суддзя загадала знішчыць. І хаця В.Івашкевіч падаў апеляцыю, нават калі ён пазней выйграе справу, газеты ўжо спаляць альбо парэжуць. А вось дырэктара друкарні «Мэджык» апраўдалі, вызначыўшы, што ён проста выконваў заказ кліента, і не мае права дыктаваць свае погляды іншым.

Учора прайшлі суды над Лявонам Баршчэўскім, Лявонам Садоўскім ды іншымі затрыманымі раней прыхільнікамі байкоту выбараў. Лявон Баршчэўскі быў прызнаны вінаватым у агітацыі за байкот выбараў і пакараны штрафам у 13.000 рублёў.

Тым часам новыя пікеты, што хваляй накрылі ўсе мікраараёны Мінска, прайшлі абсалютна спакойна, што стала вынікам, мабыць, пратэсту, паднятага апазіцыяй у сродках масавай інфармацыі. Пакуль што не быў затрыманы ніводзін чалавек, што стала свайго роду сенсацыяй. Пікеты плануецца працягнуць з яшчэ большым размахам, паколькі людзі жадаюць ведаць праўду.




- 1 кастрычніка — Менск
- 8 кастрычніка — Віцебск
- 14 кастрычніка — Менск

Пишут и пишут!

***Мужык** (водзячы пэндзлем, задаволена):* Стена очень пористая.

***Начальніца:*** Идиоты!

***Мужык** (абмакваючы пэндзаль у шэрую фарбу):* Краски много уходит, очень много!

***Начальніца:*** Скоты!

***Мужык** (зусім радасна):* Пористая стена, большой расход краски, впитывает!

Порыстая сьцяна бібліятэкі імя Пушкіна, шматкроць пакрытая шэрымі плямкамі, якая сваёй фэнамэнальнай паглынальнай здольнасьцю, спадзяюся, і ўвосень давацьме сякі-такі даход працаўніку пэндзля, застаецца ззаду.

— Дзіўная краіна! - кажа мой спадарожнік. – Здаецца, надрукавалі б поўнакаляровы плякат зь вялізнымі літарамі БЕЛАРУСЬ ГЭТА СЬВЯТОЕ ды разьвесілі б паўсюль, у тым ліку ў гэтай бібліятэцы... Ці ж Радзіма ў нас перастала быць сьвятым паняцьцем?

Графіці — зьява агульнабеларуская, але мае мясцовыя асаблівасьці. У Менску яны больш патэтычныя і пераважна беларускамоўныя. Нацыянальна несьвядомы Брэст затое адыгрывае ролю такой сабе беларускай Адэсы. Менавіта тут, на глухой і доўгай манумэнтальнай сьцяне пэдінстытуту, што цягнецца цэлы квартал, я пабачыла простую і ясную прапанову, якая, выкананая белай фарбай па чырвонай цэгле, не магла ня ўразіць:

Если любишь Лукашенку,
Бейся лбом об эту стенку!!!

А ўвогуле, вядома ж, гэта ня сьмешна. Бо калі пры выкананьні такога надпісу цябе зловіць за руку нейкі «любіцель Лукашэнкі», дык кожная літара, улучна са знакамі прыпынку, пацягне на месяц калёніі строгага рэжыму. Бо строгі, халера, у нас рэжым. Або, як сказаў бы дзядуля Шчукар, прыжым.

Таму і ў ранішніх вадзіцеляў, і ў пралетараў, і ў чыноўнікаў рознага рангу, і нават у першаклясьнікаў пры другім поглядзе на мэтровыя літары аднолькавая думка: «Ці ж хаця б не злавілі іх!»

Восеньскія графіці, пароль і знак таго, што свае побач.

Знак таго, што маладыя застаюцца маладымі.

Знак таго, что ты сам быў маладым зусім нядаўна.

# РАЗРАБАВАНЫ ОФІС САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТАЎ

Заканчэньне. Пачатак на стар. 1

зьявіўся нейкі паліэтыленавы пакет, а ў другога ў кішэні было відаць зброю агнястрэльную. Гэта хутчэй за ўсё былі Пешкін ці ПМ». Такім чынам, ніякіх раненьняў у часе налёту баевікоў ані Худніцкі, ані іншыя сябры БСДП не атрымалі, але затое перажылі моцны стрэс. Калі хтосьці зь іх хацеў узняць галаву, баевікі білі пісталетам у скронь.

Наконт таго, хто гэта мог быць Мікола Худнiцкі лічыць, што «хутчэй за ўсё гэта былі не супрацоўнікі нашага МУС, і не КГБ. Яны працавалі вельмі прафэсійна. Хутчэй за ўсё спэцслужба, бо простыя рабаўнікі так ня дзейнічаюць».

Цяпер у штаб-кватэры «Народнае Грамады» поўны разгром: раскіданыя паперы, разьбітыя тэлефоны й кампутары. Актывісты зазначаюць, што зьнішчаны ўвесь партыйны архіў, учынена вялікая шкода перадвыбарчай кампаніі партыі.

Мікола Статкевіч у сваю чаргу лічыць, што гэта акцыя дзяржаўнапалітычнага тэрору. Гэта зьвязана з ўдзелам сябраў партыі ў выбарах. Мэтай нападу было атрыманьне інфармацыі аб сябрах партыі, якія ўдзельнічаюць у выбарах, у першую чаргу, тых прыхільнікаў, якія зарэгістраваныя як беспартыйныя кандыдаты. Відавочна, што гэтая дзяржава робіцца крымінальнай, і гэты працэс спаўзаньня ў крымінал нейкім чынам трэба спыняць... Безумоўна, страта нанесеная, усе базы дадзеных скрадзеныя, уся дакумэнтацыя, тры кампутары пераватораныя ў мэталалом, ёсьць грашовыя страты.

Пракуратураю ўзбуджана крымінальная справа. Міліцыя прыбыла яшчэ ўначы, пасьля чаго ўсіх, хто пацярпеў ад нападу, забралі ў РАУС для дачы паказаньняў.

Пра міліцыю Статкевіч сказаў так: «Яны прыехалі пасьля нападу ў раёне 12 гадзінаў. Яны тут некалькі гадзінаў працавалі. Чатыры маладых чалавекі, адна зь якіх дзяўчына, якія больш за гадзіну ляжалі на падлозе пад пісталетамі... Пасьля гэтага гэтых дзяцей яны ў палове на чацьвертую забралі ў аддзел міліцыі і трымалі там амаль да гэтага моманту, да паловы 12-й дня. Бацькі да раніцы ня ведалі, дзе гэтыя дзеці. Іх спрабавалі там заблытаць па адным, па-сутнасьці, спрабавалі павесіць усё на гэтых дзяцей, гэты напад. Я так гэта разумею».

***Валер Каліноўскі***

Свабода

# ДЭПУТАТАЎ «ПАЛАТЫ» НІХТО НЯ ВЕДАЕ

*«Як вы лічыце, ці будуць выбары ў палату прадстаўнікоў нефальсіфікаванымі?» і «Ці можаце вы назваць 2-3 дэпутатаў дзеючай палаты прадстаўнікоў?»* — з такімі пытаньнямі зьвярнуліся журналісты газэты «Наша Свабода» да прахожых на вуліцах Менска.

***Павел Антонавіч**, адукацыя вышэйшая (ад фотакамэры зьбег):*

— Ранейшы вопыт падказвае, што выбары проста ня могуць быць сумленнымі. Назіраньне за папярэднімі абяцаньнямі і за іх выкананьнем падказвае, што з тых, хто прыходзіць, – ніхто лепш жыцьцё не зробіць. І на выбары я не пайду, альбо выкрасьлю ўсіх.

— А наконт дзеючых дэпутатаў, то ведаю толькі дэпутата па сваёй акрузе Васіля Хрола. Шмат абяцаў, ледзь не як Жырыноўскі, а насамрэч…

***Тацяна**, мадэльер:*

— Я думаю, што ўлада прапіхне ў палату тых, хто ёй патрэбны там. Гэта мая асабістая думка.

— З дэпутатаў гэтай палаты-парлямэнта я нікога ня ведаю, бо не вядзецца ніякага асьвятленьня працы іхняй, як гэта раней было.

***Віктар**, навуковы супрацоўнік:*

— Цяжка сказаць. Магчыма, што і так, а магчыма і не. Апазыцыя таксама сваіх прапіхвае, дык чаму ж выбары будуць несумленныя?

— Зараз нікога зь дзеючых дэпутатаў успомніць не магу.

***Уладзімір**, інжэнер:*

— Выбары можа і не будуць сумленнымі, але ўлады зробяць шмат, каб іх прызналі. А скарыстаюцца гэтым, як і раней, прайдзісьветы розныя.

— Слаба я ведаю гэтых людзей, таму што яны мне нецікавыя.

***Тацяна**, студэнтка:*

— Зразумела несумленнымі. Тут і думаць няма чаго. Але мяне не падманеш, я не пайду…

— Ня буду адказваць, бо ня ведаю.

***Марына**, настаўнік:*

— Я ў палітыку не ўдаюся і лічу, што трэба прагаласаваць, за таго, за каго лічыш патрэбным. Я пайду і прагаласую, а там бачна будзе.

— Ні аднаго ня ведаю, бо няма работы ніякай у іх там. І лідэраў таксама сярод іх няма, палітыкаў сапраўдных.

***Аня**, прыбіральшчыца:*

— Я гэтай палітыкай не цікаўлюся і таму не магу нічога сказаць.

— Ня ведаю нікога дакладна.

***Мая**, студэнтка Лінгвістычнага унівэрсытэта:*

— Як заўсёды. А як заўсёды – гэта значыць несумленнымі.

— А дэпутатаў ня ведаю. Ніхто ня ведае? Ці то іхняя праца не асьвятляецца, ці то яны нічога ня робяць.

***Ала**, беспрацоўная:*

— Гэта будзе залежыць ад таго, ці будуць назіральнікі. А калі назіральнікаў ня будзе, то аб якой сумленнасьці можна казаць?

— Пра дэпутатаў нічога не скажу. СМІ пра іх нічога не паведамляюць, а чаму – ня ведаю.

***Віялета**, інжэнер-электрык:*

— Пяцьдзесят на пяцьдзесят. Як гэта? Гэта значыць некаторыя фальсіфікацыі будуць, але нязначныя. Парушэньні ёсць заўсёды.

— Ня ведаю нікога, не сачу за іх працай. Раней, пры ранейшым парлямэньце – ведала, а зараз неяк…

***Алег Тарасевіч**, дырэктар ААТ «Альвена-інфо»:*

— Не, несумленнымі. Апазыцыі як такавой няма. Кантроль толькі з боку дзяржавы. Задушаныя сродкі масавай інфармацыі. 60-70 адсоткаў, што несумленнымі.

— Калі падумаць… Не, не магу ўспомніць. Ус, па-мойму ёсьць такі. Не асьвятляецца зусім праца парлямэнта. Ды і навошта асьвятляць, калі ніякай апазыцыі ўнутранай там няма? Вось у Расеі цікава глядзець, ня тое, што ў нас.

Витебский Курьер

# СТАРЫЕ ДРУЗЬЯ В НОВЫХ ОДЕЖДАХ

Приближаются выборы в Палату представителей Национального собрания Республики Беларусь. И рад бы написать немало строк о высокой демократичности предстоящей акции, о том, что мандат депутата получат достойнейшие из достойных, но в Орше предвыборная кампания строится иначе.

Предлагаю вниманию читателей хронику отдельных действий оршанских властей.

*15 августа.* Мэр Орши Валентин Мойсеюк выступает в поселке Болбасово перед коллективом авиаремонтного завода. Указывая на привезенного с собой будущего кандидата в депутаты по 27-му избирательному округу начальника Оршанского локомотивного депо Владимира Жвикова, мэр говорит примерно следующее: «Это ваш депутат. Вы обязаны проголосовать за него. Это требование власти». Агитация в то время еще была запрещена.

*20 сентября.* Заместитель председателя райисполкома Надежда Стахович на совещании работников аппарата - членов участковых избирательных комиссий категорически потребовала приложить все усилия, чтобы в депутаты по 27-му округу были избраны уже упомянугый Жвиков или директор предприятия «Оршанефтепродукт» Анатолий Вишневский, а по 31-му округу - ныне действующий депутат Александр Азарченков, который присутствовал на этом совещании и просил помочь ему в распространении листовок, что данной категории лиц делать нельзя.

*22 сентября (утро).* Встреча в колхозе имени Куйбышева кандидатов в депутаты по 27-му округу с колхозниками. В конце встречи руководитель хозяйства Яковенко заявляет, что мы уже определились и будем голосовать за Вишневского, который-де помогает нам с ГСМ.

*22 сентября (день).* В райисполкоме в 12 часов началось совещание руководителей предприятий и организаций районного звена. Частично, правда, участвовал и город. На нем присутствовали Азарченков, Вишневский и Жвиков. Другие кандидаты об этом совещании просто не знали. Председатель райисполкома Владимир Адашкевич в свойственном ему стиле потребовал от присутствующих поставить предвыборную работу так, чтобы эти кандидаты прошли, а «народ сделал правильный выбор».

И еще. По сведениям, полученным из информированных источников, по двум оршанским и толочинскому избирательным округам до 30% электората проголосуют досрочно, с 10 по 14 октября, в то время, когда процесс голосования проконтролировать будет сложно.

**Виктор Петрушин.**

Выдавец: Віцебскае аддзяленне ГА «Фонд імя Л. Сапегі»
СВАБОДНАЕ СЛОВА
Адрас рэдакцыі: Віцебск пр-т Чарняхоўскага, 12-17
Рэдактар: Х.Жэляпаў +©barsdesign2000
Распаўсюджваецца бясплатна